**У НУМАРЫ**

- Гісторыя жабрачай торбы
- «Белавежа» прадаўжае дзейнасць
- Рабочыя з Гарадка
- Карэспандэнцыя з Мінска
- «Вяпрук у кшталце дыму»
- «Nadleciał wiatr»
- Марскі гумар

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 25 (747) ГОД XV БЕЛАСТОК 21 ЧЭРВЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.

Сустрэчы з „Нівай"

## Наваберазоўскія жальбы

Гледзячы на незакончаны тратуар у Наваберазове, «цюкнула» мяне нядобрае прадчуванне: такіх спраў пры добрым ладзе не пакідаюць недаробленымі. Гэта ўсё роўна як бы жонка нядобрага і скнэрлівага мужа, якая выбегла паўголая, выгнаная.

У наваберазоўскім клубе гаспадара сабраліся старэйшыя людзі, якія прыйшлі паслухаць, а не гаварыць. Іх вочы як у тых, якім многа наабяцалі і нічога не зрабілі. Тэлевізар. Стаіць ён на высокім месцы, добры і чужы, загадчыка клуба. Клубнага тэлевізара няма. Хіба ўжо з год будзе, як у гайнаўскі гээс пайшоў наказ аж з Беластока, каб аднак жа купіць Наваберазову тэлевізр. Не купіў гээс. Наваберазоўская грамадская рада хоча перадаць клубу свой тэлевізар, папсаваны але тэлевізар. Гайнаўскі гээс не спяшаецца на гэтую здзелку: дудкі, парамантуй радаўскі тэлевізар, тады скажуць «аддавайце, гэта наш». Так можа быць... Ці ж нельга зрабіць так: грамадская рада перадае клубу тэлевізар на год-два і не на слова гонару, але на падставе адпа-

Працяг на стар. 4



Бэз. *Фота А. Карпюк.*

## ЛІТВІНАВІЦКІ ДРАМГУРТОК

Літвінавіцкі драматычны гуртох (з Сямяціцкага павета) прыняў у гэтым годзе ўдзел у цэнтральным аглядзе драматычных гурткоў БГКТ, які адбыўся ў Беластоку 24 мая.

Гурток, які ўтварыўся ў 1962 г. і якім кіруе Раіса Чыжык, выступаў за сваё існаванне прыблізна 45 разоў.

Прыемна было; што на аглядзе гурток выступіў з п'есай «Конская кніжка» — нашага рэдакцыйнага калегі Уладзіміра Паўлючука. Тэматыка п'есы, якую выбраў гурток, была, відаць, ім адпаведная і блізкая вясковаму жыццю.

Трэба сказаць, што выступленне было ўданае. Дэкарацыя добрая: простая, вясковая, падкрэслены беларускі акцэнт.

(ач)



*Удзельніца п'есы «Конская кніжка» У. Паўлючука Яўгенія Германюк.* *Фота Цаф — Сянько*




Польскі паэт Анджэй Бурса напісаў калісьці прыгожы верш пад загалоўкам «Абарона жабрацтва». Выступаючы супраць тых, якія патрабуюць ад жабракоў, каб яны недзе працавалі, паэт піша:

«Але ж яны працуюць, дарагі пане, яшчэ як, за якую-небудзь міласціну ў кожную пару нясуць нам чыстыя і несфальшаваныя эмоцыі. Яны не ядзяць драўлянага хлеба... Не адыгрываюць смерці, як у вашых тэатрах, але іграюць цэлым целам, выстаўленым на мароз, жар і лівень, кожным жэстам, голасам і вошай на каўнеры...»

Паэт ухапіў істотную рысу жабрака — яго мастацкае акторства. У адрозненне ад сапраўдных акцёраў з тэатраў, якія пераапранаюцца ў сваю ролю на некалькі гадзін, на час ігры ў тэатры — жабракі прымаюць на сябе сваё акторства назаўсёды. Сапраўдны жабрак не толькі жабрачыць, але і жыве пажабрачаму: ўбога, скромна, абарвана і па-дурному. Жабрак мусіць быць вечна брудны, няголены, абарваны, калека, нешчаслівы. Вечна з пакорлівай, няшчаснай, молячай мінай.

Жыхары некаторых кварталаў Беластока ведаюць даволі дзіўнага жабрака — здаровага мужчыну, які абыходзіць некаторыя дамы ў нядзелю з раніцы, стукаючы страшэнна моцна кулаком у дзверы. Многія пазнаюць яго па гэтым стукаце і не адкрываюць дзвярэй, іншыя заглядаюць у дзвярынае вока, пазнаюць яго і таксама не адкрываюць дзверы, а частка з іх суне жабраку міласціну ў руку.

Расказваў мой сябра такую падзею. Пасля непраспанай ночы спаў ён нядзельнай раніцаю сном салодкім. Разбудзіў яго гвалтоўна аглушаючы ломат у дзверы. Сябра сарваўся з пасцелі і зазірнуў у дзвярынае вока. Убачыў на лесвіцы спамянутага намі жабрака. Стаяў ён, бестурботна абапёршыся аб сцяну, абыякава глядзеў перад сабой і спакойна лушчыў семячкі, плюючы і чакаючы, пакуль абуджаны гаспадар адкрые дзверы.

Сябра закляў моцна і пайшоў спаць, не адкрыўшы жабраку. Раззлавала яго не тое, што жабрак паводзіў сябе даволі 'голасна, але тое, што той не выконваў нават сваёй жабрацкай ролі, не рабіў нічога, каб іграць жабрака, што ленаваўся нават паводзіць сябе, як жабрак. Траціць на гэтым, безумоўна, многа — многія не адкрываюць яму дзвярэй. Але не на столькі многа, каб не аплочвалася ў нядзельную раніцу хадзіць ад дома да дома і ламатаць кулаком у дзверы.

* ✻ *

Здаецца, што нікому ў свеце не прыйшло яшчэ ў галаву напісаць кніжку пад загалоўкам «Гісторыя жабрацтва». А кніжку такую можна было б напісаць. Бо жабрацтва, яго форма і змест змяняюцца, як усё на свеце, разам са зменамі грамадскага жыцця.

Польскі этнограф і літаратуравед Ян Станіслаў Быстрань апісаў у адной са сваіх кніжак вялікую станоўчую ролю жабрацтва ў традыцыйным вясковым жыцці. Жабракі, асабліва розна-

(Працяг на стар. 4)

## БГКТ хроніка

■ 1-га чэрвеня адбылася нарада, прысвечаная абмяркоўцы прапановы прэзідыума ГП адносна дадатковай спецыялізацыі (руская мова) для навучэнцаў будучай беларускай філалогіі ў Вышэйшай настаўніцкай школе ў Беластоку. Апрача кіраўніцтва ГП, у нарадзе прыняў удзел візітатар Міністэрства асветы Станіслаў Янкоўскі і прадстаўнік куратарыі ў Беластоку Стэфан Кэнска.

■ 2-га чэрвеня ў Любліне адбылася сустрэча студэнтаў, з старшынёю і сакратаром ГП Міхасём Хмялеўскім і Янкам Зенюком, якія расказалі аб ролі і заданнях Беларускага таварыства ў Польшчы. На гэтым сходзе быў утвораны гурток БГКТ. Старшынёй гуртка выбраны Юрка Карпюк, сакратаром Янка Сяльвесюк і скарбнікам Грыша Дзікевіч.

■ У Востраве ў Дуброўскім павеце на вясковым сходзе прысутнічаў кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Уладзімір Паўлоўскі і інструктар ГП Анатоль Севасцьянюк. Шмат удзельнікаў сходу падпісалі членскія дэкларацыі БГКТ і выбралі праўленне гуртка ў складзе: Уладзімір Кейко — старшыня, Чэслаў Ацэвіч — сакратар (кіраўнік мясцовай школы), Ірэна Кавальчук — скарбнік. Ва ўтварэнні гуртка вялікую арганізатарскую ролю праявіў солтыс Лявон Павук.

■ Гурток БГКТ у Грабенях (Дуброўскі павет) прыняў у рады беларускага таварыства 14 новых членаў.

■ Пленарнае пасяджэнне бельскага аддзела БГКТ 4-га чэрвеня абмеркавала дзейнасць аддзела ў першым паўгоддзі і прыняло план працы да канца бягучага года.

■ У памяшканні ГП 7-га чэрвеня адбыўся цэнтральны агляд удзельнікаў конкурсу на беларускую песню. Першыя ўзнагароды журы прызнала: квартэту з пачатковай школы ў Мілейчыцах і салістцы з Беластока — Валянціне Рэкун.

■ 7-га чэрвеня прэзідыум аддзела БГКТ на Беластоцкі павет абмеркаваў справы, звязаныя з арганізацыяй фэстыну.

■ Сакрат Яновіч 2-га чэрвеня правёў аўтарскую сустрэчу ў Дзернякове ў Беластоцкім павеце, а 7-га чэрвеня — у Сухінічах на Сакольшчыне. (мх)

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС „ХАТЫНЬ"

*За мемарыяльны комплекс «Хатынь» архітэктарам Юрыю Градаву, Валянціну Занковічу, Леаніду Левіну, скульптару Сяргею Селіханаву прысуджана Ленінская прэмія 1970 года.*

Больш чвэрці стагоддзя таму назад, ў шасцідзесяці кіламетрах ад Мінска, у адным з прыгажэйшых куткоў Беларусі, які, здаецца, самой прыродай створан для жыцця і шчасця людзей, знаходзілася вёска Хатынь. Вёску Хатынь нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі разам з усімі яе жыхарамі. Ад рук забойцаў загінула 149 чалавек, у тым ліку 76 дзяцей. Як населены пункт яна знікла з геаграфічнай карты, але ў памяці народа ўсё яшчэ жыве. На месцы былой вёскі створан мемарыяльны комплекс «Хатынь».

Хатынь — гэта помнік не толькі цярпенням чалавека, гэта гімн жыццю, адрадзіўшамуся на вольнай зямлі. Вечны агонь, запалены як памяць аб загінуўшых, і побач з ім тры растучыя бярозкі, што сімвалізуюць жыццё, сцяна з назвамі адроджаных з попелу вёсак — раскрываюць ідэю нязломнага духа савецкіх патрыётаў.

У ўрнах мемарыяльнага комплексу «Хатынь» — зямля з 135 вёсак Беларусі, поўнасцю знішчаных разам з жыхарамі фашысцкімі акупантамі і не адроджаных пасля вайны. А непадалёку ад вечнага агню, запаленага ў памяць ахвяр фашызму, збудавана мемарыяльная сцяна з назвай яшчэ 296 беларускіх вёсак, таксама па-зверску знішчаных гітлераўцамі разам з жыхарамі, але адбудаваных працай савецкіх людзей.

Умелае выкарыстанне архітэктурна-пластычных сродкаў у сувязі з ландшафтам, гул званоў, тэкставыя надпісы ствараюць тую нязвыклую сілу эмацыянальнага ўздзеяння помніка, якая дае непарушную веру ў перамогу жыцця.



*Прадстаўнікі гарадоў і вёсак Мінскай вобласці аглядаюць мемарыяльныя могілкі спаленых вёсак.*



*Скульптурная кампазіцыя.*

...Ніколі не зарасце ў Хатынь сцежка народная. Хатынь цяпер наведваюць не толькі савецкія людзі, але і госці з замежных краін.

Трагедыя Хатыні не павінна паўтарыцца! Трывожныя званы над Хатынню прыпамінаюць людзям, што і сёння на свеце неспакойна. Усе людзі добрай волі павінны памятаць аб гэтым, быць чуйнымі і не даць імперыялістам развязаць новую крывавую вайну.

# "БЕЛАВЕЖА" ПРАДАЎЖАЕ ДЗЕЙНАСЦЬ

Ужо звыш дзесяці год наглядаю за дзейнасцю Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якое існуе пры Галоўным праўленні БГКТ. І з прыемнасцю сцвярджаю, што выразна відаць якаснае развіццё гэтага мастацкага згуртавання беларускай інтэлігенцыі, пражываючай у Польшчы. Не адна была нагода, каб у гэтым пераканацца. Алесь Барскі і Сакрат Яновіч сталі членамі Саюза польскіх пісьменнікаў, магчыма, хутка будуць імі Ян Чыквін і Віктар Швед. Праз год — два атрымаем асобныя зборнічкі іншых белавежцаў. А ўжо зараз тысячы, дзесяткі тысяч экземпляраў кніжак з друкаваным беларускім словам апынулася пад «стрэхамі» не толькі вясковых хат.

Гэта канкрэтныя сляды, якія члены літаратурнага аб'яднання пакідаюць на культурнай ніве — перш за ўсё Беластоцкага ваяводства. Але не толькі. Жывога беларускага слова патрабуюць беларусы, рассеяныя па ўсёй нашай краіне. Доказ — хаця б нядаўняя аўтарская сустрэча Яна Чыквіна у Гданьску.

Адначасова павышаецца ўнутраны ўзровень паасобных белавежцаў. Праца над мастацкім афармленнем слова, сутыкненне з яго цвёрдай матэрыяй паказала многім кандыдатам у літаратары, што без глыбокіх ведаў, адно толькі «голым» талентам цяжка прыходзіцца будаваць складаную, быццам з павуцінных нітачак вытканую, літаратурную канструкцыю. Дык трэба вучыцца. Зразумелі гэта і Уладзіслаў Дваракоўскі і Янка Цялушэцкі, і Сакрат Яновіч і аўтар гэтых заўваг, а прыкладам найбольш відавочным з'яўляецца, бадай, Віктар Швед. У яго была даволі добрая тэарэтычная падрыхтоўка да творчай працы. Ён аднак лічыў неабходным для сябе спецыяльна вывучаць беларускую філалогію, каб лепш разумець мову сваіх творчых імкненняў, каб лавіць у пастку твораў самыя тонкія, далікатныя праявы думак і пачуццяў.

Гэта таксама факты.

Пра ўсё гэта гаварылася на апошнім справаздаўча-выбарчым сходзе літаратурнай «Белавежы», які адбыўся 31 мая г.г. у памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку на вуліцы Варшаўскай 11. Прысутнічалі Алесь Барскі, Яша Бурш, Уладзіслаў Дваракоўскі, Юрка Геніюш, Уладзімір Сац, Алесь Свісёк, Зося Стаськевіч, Віктар Швед, Янка Цялушэцкі, Ян Чыквін, Сакрат Яновіч і ніжэй падпісаны. Нейкія — трэба лічыць, што неадкладныя справы — перашкодзілі прыехаць на сход Мікалаю і Уладзіміру Гайдукам, Юрку Зубрыцкаму, Сымону Раманчуку і некаторым сябрам. Кіраўніцтва таварыства, якое сардэчна і канкрэтна (фінансы!) апякуецца намі, найперш прадстаўляў сакратар Галоўнага праўлення Янка Зенюк, а пазней прыйшоў сам старшыня — Міхась Хмялеўскі.

Калі ўжо гаварыць пра ўлады таварыства, дык неабходна сказаць, што амаль усе белавежцы выказалі сваё задавальненне тым, што нарэшце гэтае кіраўніцтва выпрацавала талковую выдавецкую палітыку, што ведае, чаго ў гэтай галіне хоча, што выдавецкая камісія мае састаўленую праграму на некалькі бліжэйшых год.

І сакратар Зенюк таксама быў задаволены. Заклікаў ён сяброў-літаратараў, каб свае творчыя зацікаўленні, асабліва ў час падрыхтоўкі да адзначэння 15-ай гадавіны БГКТ, накіравалі ў бок менавіта таварыства, каб беларускі аматарскі рух мог разлічваць на нашую мясцовую, беластоцкую творчасць. Абяцаў нават заахвоціць да пісання каштоўнымі конкурснымі ўзнагародамі.

Усё гэта было аднак пазней. Найперш Віктар Швед, які кіраваў сходам, аддаў слова Алесю Барскаму. Выступіў тут ён як даследчык (доктар філалагічных навук) і прачытаў даклад пра тое, што Ленін меркаваў аб літаратуры. Тэма, здаецца, не новая, аднак доктар Баршчэўскі патрапіў апрацаваць яе вельмі цікава, асабліва пра суадносіны Леніна з Горкім, Луначарскім і Базаравым.

Калі перайшлі да наступнага пункта павесткі сходу, Алесю Барскаму зноў прыйшлося выступаць — на гэты раз як старшыні праўлення беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Ён зачытаў даклад аб дзейнасці аб'яднання на працягу апошніх 3-х год.

Рознае здаралася ў звыш 10-цігадовай дзейнасці «Белавежы». Былі сваркі, тварыліся падзелы на «варшаўскі» і «беластоцкі». Гневаўся на аб'яднанне Яша Бурш за «недаацэньванне» яго твораў. Усё гэта ўжо — мінулы перыяд. Яша Бурш не толькі вярнуўся «на ўзлонне» «Белавежы», але выбралі яго ў яе праўленне, а пра сваркі даўно ўжо амаль усе забылі. Не абазначае гэта, што ў літаб'яднанні існуе ідылічная атмасфера поўнага маўчання. Выявілася гэта, калі трэба было выбраць новае праўленне. Астаткова ў выніку тайнага галасавання ў саставе праўлення «Белавежы» апынуліся: Алесь Барскі — старшыня, Яша Бурш — яго намеснік, Зося Стаськевіч — сакратар і Ян Чыквін — рэдактар літаратурнай аўтаномнай старонкі «Белавежа».

Вечарам адбылася ў клубе гарадского аддзела БГКТ у Беластоку груповая аўтарская сустрэча. Я прачытаў творы Барскага, Яновіча і М. Гайдука, перакладзеныя мною на польскую мову. Найбольш спадабаліся вершы Барскага, якога прымушалі бісаваць.

Значыць, літаратурная «Белавежа» прадаўжае творчую дзейнасць. Яна смела расцягвае свае парусы на прасторным і неспакойным моры сучаснай літаратуры.

ВІКТАР РУДЧЫК



*Старшынёю беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» паўторна выбралі Алеся Барскага (у цэнтры). Справа ад яго: сакратар Ян Зенюк, а злева — Віктар Швед.* *Фота Цаф — Сянько*

## ІМЯ ХРАНОЎСКІХ

Пачатковая школа ў Гарадку Беластоцкага павета названа імем партызанскіх братоў Міхаіла і Аляксандра Храноўскіх. З'яўляліся яны аднымі з першых беларускіх партызанаў у гарадоцкай ваколіцы. Загінулі геройскай смерцю ў барацьбе з фашыстоўскім акупантам.

У школе будзе наладжаны музейны куток пра геройскіх братоў, у якім знойдуцца дакументы з іх жыцця і дзейнасці. Дарэчы будзе зазначыць, што найбольш поўнае апісанне дзейнасці Храноўскіх публікавала наша «Ніва» ад 1957 года. (ся)

## ДУБІНСКІ ХОР

У Дубінах арганізаваўся някепскі хор, які мог бы адыграць пэўную ролю ў папулярызацыі беларускай песеннай культуры. Аднак арганізатары хору не падумалі аб тым, каб у яго рэпертуар увесці хоць адну беларускую песню. Гэта зусім пярэчыць ідэі аматарскага руху ў нашых вёсках, ідэі адлюстроўвання перш за ўсё мясцовай песні, папулярызацыі яе.

Гэты недагляд павінен быць узяты пад увагу кіраўніцтвам хору. (ся)

# РАБОЧЫЯ З ГАРАДКА

Прасторныя, светлыя завадскія цэхі. Над швейнымі машынамі спецыяльнага тыпу роўнымі радамі схіліліся дзявочыя вочы. Гэта работніцы гарадоцкай «трыкатажкі», гэта дзяўчаты з «Каро». Многа іх тут. Кіраўнік прадпрыемства Анатоль Кандрусік кажа, што на дзвюх зменах працуе ў яго звыш 400 рабочых — пераважна маладых, яшчэ незамужніх дзяўчат. Рознымі дарогамі вандравалі яны да завадскіх станкоў гарадоцкай «трыкатажкі». Найбольш тут «сваіх», з Гарадка і навакольных вёсак. Але да прадпрыемства найчасцей прыходзілася ісці акружной дарогай — праз школу. І гэта нармальна, так яно і павінна быць. Важна аднак тое, што дзяўчаты з Гарадка, з Валіл, з Меляшкоў і другіх навакольных вёсак могуць разлічваць на «сваю» трыкатажку, што з ёю могуць спалучаць уласныя планы сваёй будучыні.

Праменні майскага сонца іскрамі рассыпаліся па вялікіх вокнах завадскіх цэхаў. Яны замільгацелі, заігралі на галубых, жоўтых, чырвоных, белых, ружовых кусках трыкатажнага матэрыялу, які па пракатнай лініі вандруе з рук у рукі. Блюзкі, світры, кашулі, трусікі, плаўкі... Для дзяцей, для прыгажунь і для болей брыдкай часткі людскога роду.

Тавар ідзе, бы вада. Да нядаўна нават за мяжу, пераважна, у Савецкі Саюз. Цяпер яго чакае амаль 200 сваіх, польскіх заказчыкаў..

— Нас нават «тэлевізія» пахваліла, — з гордасцю гаворыць адна з «караўскіх» прыгажунь.

— Сапраўды?! Віншую.

Пасля аднак я даведаўся, што ў тэлевізійнай праграме паказвалі не гарадоцкае, а сядлецкае прадпрыемства «Каро». У Седльцах разам з дырэкцыяй знаходзіцца асноўная база трыкатажкі, а ў Гарадку — толькі філіял.

— Седльцы і Гарадок — гэта адно, — бароніцца мая прыгажуня і ў нейкім сэнсе праўда на яе баку: адна ўлада і адзін лёс. Вось у мінулым годзе супольна дапрацаваліся яны аж трох мільёнаў злотых завадскога фонду, які ў асноўным прызнаецца да падзелу між рабочымі.

Гарадоцкі калектыў стараецца, як можа. Лікі паказваюць, што наракаць на яго няма падстаў.

— Надакучыла нам моцна мінулая зіма, — кажа кіраўнік Кандрусік. — Засыпала было нас так, што практычна былі мы адрэзаны ад свету. Склады лопалі ад перагрузкі. Не было дзе перахоўваць гатовай прадукцыі. І не маглі мы давезці сыравіны. Проста ледзь дацягнулі да вясны. Аднак план за першы квартал выканалі мы поўнасцю, — дабаўляе з гордасцю.

(Працяг на стар. 4)

# Зараз у Вейках

У 20 нумары (з 16 мая 1965 года) «Ніва» змясціла крытычны матэрыял пад загалоўкам *«Блытаніна»*. Гаварылася ў ім аб паблытаных рашэннях павятовых улад адносна арганізацыйных узроўняў школы ў *Падазяранах і ў Вейках*. З пісьма аддзела асветы ў Беластоку № 1—3(7)65 вынікала, што абніжаецца ў Вейках арганізацыйны ўзровень школы да класаў I—IV, а ў Падазяранах мае застацца васьмікласная школа. Заключаючы, напомнім, што блытаніна гэтая напсавала шмат крыві жыхарам абедзвюх вёсак.

Сёння ведаем, што ў Вейках існуе васьмікласная пачатковая школа. Вучыцца ў ёй 79 дзяцей, і дэмаграфічны ніж не паменшыць колькасці дзяцей у школе. Трохасабовым настаўніцкім калектывам кіруе настаўнік-дзеяч *Мікалай Ваўрэнюк*. Школа мае ўпарадкаванае сваё памяшканне і гаспадарчы будынак.

Калі прыйшоў сюды настаўнічаць М. Ваўрэнюк, застаў амаль пустку. Не было навучальных дапаможнікаў для старэйшых класаў, не было гаспадарчых памяшканняў, ды і сам школьны будынак патрабаваў рамонту. Гэта ўсё трэба было рабіць хутка. Праўда, ГРН у Гарадку аказала максімум дапамогі, школьныя памяшканні памалявалі, зрабілі новую сталярку. Але недахоп гаспадарчых будынкаў адчуваўся надта ў працы вейкаўскай васьмігодкі. Адзінае выйсце — будаваць іх грамадскім чынам.

Такі выхад быў адзіным. Разумеў гэта Ваўрэнюк. Але ці зразумеюць людзі? Людзі, якіх часта ўводзілі ў блуд самі ўлады, пішучы да іх супярэчлівыя наказы, не адклікаючы нават папярэдніх. Справа даспявала, а Ваўрэнюк адначасова стараўся вырабіць давер у вейкаўскіх гаспадароў.

— Урэшце зарызыкаваў, — успамінае кіраўнік, — на 29.X.68 г. вырашыў склікаць людзей на чын. Даходзіла гадзіна, а людзей нямнога. Пада мною ўгіналіся ногі, што мае намаганні не прынеслі ніякага эфекту і можа доўга яшчэ не прынясуць. Але праз гадзіну часу на школьным пляцы з'явілася каля 40 жыхароў. Мала таго, прывезлі з сабой будаўляную машыну з маторам, за якую прынамсі я ад імя школы ці ГРН нічога не плаціў. *За адзін дзень пабудавалі падмурак.* У пачатку снежня будынак быў гатовы.

Чын, аб якім гаварыў Ваўрэнюк, стаў вялікай выхаваўчай працай, працай, якая аб'яднала і згуртавала людзей іменна ў калектыўных пачынаннях. Гэта праўда, што былі пэўныя цяжкасці з пабудовай дарогі, якой ездзяць у Гарадок. Дарога мела служыць усім, а ў сувязі з тым трэба было і спадзявацца ўсіх на чыне пры пабудове дарогі, аднак так адразу не сталася. І зноў кіраўнік школы паставіў свой аўтарытэт на адну карту. Удалося. Людзі паехалі на чын. Дарога — жвіроўка амаль гатовая.

Пры самой школе шмат чаго зроблена, робіцца надалей і будзе рабіцца. Пабудавана ў гэтым годзе прыбіральня, у планах застаецца ніверліраванне спартыўнай пляцоўкі пры школе і выкананне фасада. Гэтага аднак трэба пачакаць таму, што гэтыя планы звязаныя з фінансавымі сродкамі.

Школьная моладзь і дзеці даюць усё з сябе, каб дараўнаць у грамадскай працы старэйшым. Напрыклад, у гэтым годзе атрымалі з павятовай рады і пасадзілі 50 ліп. Незалежна ад гэтага вучні вейкаўскай школы пасадзілі 600 дрэвак рабіны.

Неабходна дадаць, што вейкаўскія школьнікі пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў добра рыхтуюць розныя ўрачыстасці і святкаванні. Людзі з прыемнасцю аглядаюць артыстычныя часткі, у праграме якіх амаль заўсёды знаходзіцца месца на беларускае слова.

Зараз у Вейках нядрэнна, а хочацца пажадаць, каб было яшчэ лепш.

А. КАРПЮК

*Беларусіяна*

## БЕЛАРУСКІ РОД АПАЛІНЭРА

Слынны французскі паэт Апалінэр, які аказаў вялікі ўплыў на еўрапейскую літаратуру, паходзіў з таго самога роду, што і вядомы беларускі пісьменнік Карусь Каганец (псеўданім). Гэта быў род Кастравіцкіх з Навагрудчыны. Мелі яны там маёнтак Дарашковічы.

Дзед Апалінэра з'яўляўся польскім рэвалюцыянерам і эміграваў у Італію. Апалінэр быў няшлюбным сынам дачкі Кастравіцкага. Дзяцінства і юнацтва паэта прайшло на італьянскай зямлі. Нарадзіўся ён у 1880 годзе. У час першай сусветнай вайны прымаў удзел у баях французскай арміі, быў паранены. Памёр ва ўзросце 38 год. Большасць яго твораў была апублікавана пасмяротна. У многіх з іх адчуваецца духоўная сувязь паэта з Польшчай, з Беларуссю, са Славяншчынай.

Рэалістычныя і дэмакратычныя тэндэнцыі ў творчасці Апалінэра падхоплены потым такімі выдатнымі пісьменнікамі Францыі, як: Л. Арагон, П. Элюар, паэты Супраціўлення.

Апалінэр выдаў зборнік «Алкаголь». Вершы 1898—1913», цыкл «Бестыярый, ці Картэж Арфея», «Каліграмы. Вершы Вайны і Міру». Крытыкі Апалінэра абвінавачвалі яго ў тым, што не лічыўся ён з правіламі пунктуацыі, сінтаксісу і т.п.

Сапраўднае імя і прозвішча Апалінэра: Гіём Альбер Апалінары Кастравіцкі. (ся)

год на чужыну, і няма надзеі што калі-небудзь ён вернецца на Радзіму.

Добрасумленна прызнаем, што аж чатыры санеты наш аўтар прысвяціў амаль поўнасцю Міцкевічу, а толькі рэшту — сабе і сваім мукам. Чыквіну, як і Міцкевічу, цяжка жыць на чужыне (нават 2 тыдні ў Крыме!), бо «косцю ў горле стае заграніца» і «рэжа па сэрцы нудзьга безупынна».

Мы асабіста вельмі зайздросцім экскурсіі Яна Чыквіна ў Крым, а з санетаў яго цэнім адно шчырае прызнанне — паэт горача жадае пабываць яшчэ ў Італіі.

Што ж датычыць формы санетаў, аўтар узбагаціў яе параўнаннямі, якія нам ужо аднекуль вядомы. Ён кажа «спынілася гісторыі кабыла» (Маякоўскі пісаў: «Клячу истории загоним») «Ты мая рэлігія» — спявае Ян Чыквін аб Марылі, як Булат Акуджава аб Арбаце.

Можа гэта зноў выпадкова, але нам здаецца, што як на адну невялікую кніжку вершаў гэтых выпадкаў замнога.

Найбольш аднак здзівіла нас адвага і самаўпэўненасць паэта, які заяўляе:

Я мушу быць, хоць мяне не будзе
Сярод жывых — жывы
і жыццядайны.

Што датычыць нас, то так яно і будзе, калі толькі Чыквін перастане нарэшце зглядаць у студню свайго дзяцінства чужымі «дальнабойнымі біноклямі», бо пачне нас рэзаць «нудзьга безупынна», чытаючы яго вершы.

Не можам аднак адмовіць Я. Чыквіну аднаго — іскры таленту (за гэта яго ўжо хвалілі не раз). Выкарыстоўвае ж ён яе пакуль што не зусім так, як трэба.

З. НАСЯДКА



*Пасля акадэміі адбылася сустрэча з паэтам Янам Чыквінам. Была яна цікавай і ўдалай. Паэт чытаў свае вершы і адказваў на пытанні, звязаныя з яго творчасцю. На здымку: Ян Чыквін (першы злева) гутарыць з выканаўцамі мастацкай часткі.*

## У ГДАНЬСКІХ БЕЛАРУСАЎ

У мінулым тыдні мы надрукавалі справаздачу аб акадэміі, прысвечанай Дням асветы, кніжкі і прэсы, у гданьскім аддзеле БГКТ. Сёння змяшчаем фотарэпартаж з гэтай урачыстасці, які даслаў нам пазней наш гданьскі карэспандэнт Мікалай Савіцкі.

*Грэцкі жаночы калектыў выконвае адну з сваіх народных песень.*



*У мастацкай частцы выступілі з вершамі, песнямі і танцамі гданьскі калектыў БГКТ і гасцінна запрошаны калектыў песні і танца Грэцкага грамадска-культурнага таварыства ў Гдыні. На здымку: Беларускі танец «Лявоніха» ў выкананні «Маланкі» (так называецца гданьскі калектыў БГКТ).*

# ШТО ЧУВАЦЬ?

### ПРА ГАСПАДАРЧУЮ НЕАХАЙНАСЦЬ

Як інфармуе беластоцкая дэлегатура Вышэйшай ізбы кантролю, у Беластоцкім ваяводстве адзначыліся неахайнай гаспадаркай будаўляныя і меліярацыйныя прадпрыемствы. Вось прыклады: пры разбудове цагельні ў Дабжыневе замест планаваных 5-ці мільёнаў зл. будаўнікі расходвалі звыш 13 мільёнаў зл., а цяжкія механічныя землекапалкі на будовах і пры дрынажоўцы палёў прастаялі амаль столькі часу, колькі працавалі.

Так было ў мінулым годзе. Цяпер, асабліва пасля надзвычай важных пастаноў апошняга пленума ЦК партыі, штосьці падобнае не можа здарыцца. Не дазволяць рабочыя.

### ПРА ВУЧОНАГА ГАСПАДАРА

У вёсцы Дамураты на Дуброўшчыне жыве Чэслаў Ярашэвіч. Гаспадарыць ён на 20-ці гектарах зямлі. Гаспадарыць добра, бо дасканала ведае сваю прафесію. Ён ужо другі год завочна вучыцца ў Галоўнай школе сельскай гаспадаркі ў Варшаве. Сярэднюю сельскагаспадарчую школу таксама закончыў завочна.

Ч. Ярашэвіч — вельмі актыўны грамадскі дзеяч. З'яўляецца ён радным ВРН, а ў сваёй роднай вёсцы дапамагае будаваць школу грамадскім чынам.

### ПРА ЗАТРАТЫ

Апошняя зіма цягнулася ад лістапада 1969 года да мая 1970 года. Яна не толькі страшэнна надакучыла людзям, але пакінула пасля сябе балючыя сляды на палях Беласточчыны. Толькі на тэрыторыі ГРН Гарадок у Беластоцкім павеце прыйшлося заараць 144 гектары азіміны, а гэта ж амаль 100 тон збожжа! Асабліва шмат пацярпелі вёскі: Мялешкі, дзе сяляне заaралі звыш 22 гектары азімін, на станцыі Валілы — звыш 16 га, у Бялявічах — звыш 27 га і ў Падазяранах — звыш 13 га. Некаторыя гаспадары проста заяўляюць, што ў гэтым годзе хлеб прыдзецца есці відэльцам.

### ПРА СІЛАСЫ

У вёсках гарадоцкай ГРН гаспадары дагэтуль пабудавалі (пераважна пры выдатнай фінансавай дапамозе ПЗУ) 126 бетонных сіласных ямаў. У мінулым годзе толькі 11 сіласаў было выкарыстана згодна з іх прызначэннем. Сяляне ў многіх выпадках сіласныя ямы перабудавалі на паграбы, у якіх трымаюць бульбу. Гавораць яны, што сілас ім непатрэбны, бо маюць удосталь іншага корму, асабліва высокаякаснага сена. Шкада, што грамадскі агранам разам з грамадскім заатэхнікам не змаглі растлумачыць сялянам шкоднасці такога гаспадарання.

### ПРА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Моладзь з вёскі Валілы ў Беластоцкім павеце наладзіла сяброўскія кантакты з маладымі працаўнікамі Ваяводскага праўлення аптэкамі ў Беластоку. Зімой праводзілі яны супольныя гульні і вясёлыя кулікі, а на вясну інструктар з Беластока выступаў у валілаўскай святліцы з цікавымі дакладамі.

### ПРА СЯМ'Ю ЗААТЭХНІКАЎ

У дзядзькі Казберука з вёскі Боўтрыкі ў Беластоцкім павеце сын і дачка вывучыліся на заатэхнікаў. Сын зараз працуе грамадскім заатэхнікам у Юшкавым Грудзе, а дачка — у Валілаўскім ПГР-ы.

### ПРА КОРМ ДЛЯ ЗВЯРЭЙ

Сяляне ў прылясных вёсках штогод наракаюць на дзікіх свіней і іншую звярыну, якая знішчае ім пасевы і бульбу. Каб паменшыць гэтыя затраты, лясная служба абсталёўвае ў лесе спецыяльныя палеткі з бульбай, сырадэляй і аўсом. Толькі адно жэдняўскае надлясніцтва пасадзіла ў гэтым годзе 3800 кг бульбы.

*М. Нурэцкі*

